Umbasada




# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Аўторак, 14 снежня 1993 г.
№ 161 (19296) Цана 15 руб.


♦ ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

## Унесены карэктывы

На ранішнім пасяджэнні 9 снежня дэпутаты ўнеслі карэктывы ў парадак дня. Ён папоўніўся пунктам аб павышэнні мінімальнай заработнай платы. Акрамя таго, па прапанове Аляксандра Лукашэнкі вырашана пачаць пленарнае пасяджэнне ў аўторак, 14 снежня, з інфармацыі часовай камісіі Вярхоўнага Савета для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання.

У сувязі з пераходам міністра культуры Яўгена Вайтовіча на новую работу сесія вызваліла яго ад займаемай пасады.

Пасля ўнясення змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты, звязаныя з пытаннямі падаткаабкладання, Вярхоўны Савет пачаў разгляд у першым чытанні законапраекта "Аб палітычных партыях". Яго прадставіў намеснік старшыні Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Анатоль Вярцінскі.

Дэпутаты, якія выступілі ў спрэчках, падкрэслівалі неабходнасць прыняцця такога дакумента, унеслі шэраг сваіх прапаноў. Так, на думку Галіны Сямдзянавай, улічваючы, што ў Беларусі некалькі масавых палітычных рухаў, неабходна расшырыць назву законапраекта — "Аб палітычных партыях і рухах".

На дзённым пасяджэнні дэпутаты зрабілі спробу прыняць у першым чытанні законапраекты аб палітычных партыях і грамадскіх аб'яднаннях. Аднак розны падыход парламентарыяў да таго, ці павінен гэта быць адзін закон або два асобныя — не даў магчымасці народным выбраннікам прыйсці да згоды.

З цяжкасцю даўся ім і праект пастановы аб стварэнні пазабюджэтных фондаў па ўтрыманню ведамаснага жылля. Пасля працяглых спрэчак аб неабходнасці стварэння фонду пастанова ўсё ж была прынята.

Парламентарыі завяршылі работу прыняццем паправак у праект Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях".

## У шалашы добра, а ў кватэры лепш

Жыллё — аснова чалавечага шчасця. Гэтыя словы міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі Барыса Батуры сталі як бы пажаданнем дэпутатам, якія пачалі 10 снежня абмеркаванне праекта Нацыянальнай жыллёвай праграмы, разлічанай на два бліжэйшыя дзесяцігоддзі.

Прадстаўляючы праект дакумента, Барыс Васільевіч адзначыў неабходнасць яго хутчэйшага прыняцця. Абгрунтавана гэта велізарнай колькасцю грамадзян рэспублікі, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Каля 700 тысяч сем'яў маюць сёння па беларускаму заканадаўству права на атрыманне новых кватэр.

Гаворачы аб асаблівасцях праграмы, дакладчык растлумачыў, што гэта не асобны акт, а цэлая сістэма мер, накіраваных на паляпшэнне жыццёвых умоў грамадзян рэспублікі. У праекце прадугледжваецца забеспячэнне жыллёвых гарантый грамадзян, змяненне ўмоў аплаты за жыллё і камунальныя паслугі, страхаванне дамоў і кватэр, а таксама іх рамонт.

Спрэчку пры абмеркаванні дакумента выклікалі прапановы распрацоўшчыкаў давесці да пачатку 2000-га года плату за жыллё да 20-25 працэнтаў сямейнага бюджэту. Парламентарыі прывodзілі нямала прыкладаў, калі такая лічба, пры цяперашнім узроўні цэн на тавары першай неабходнасці і прадукты харчавання, можа аказацца непасільнай ношай. Дэпутат Віктар Піскароў звярнуўся да распрацоўшчыкаў з прапановай прадставіць канкрэтную фінансавую раскладку па гэтаму пытанню. Не сышліся дэпутаты і ў думцы, з якога чысла трэба пачынаць выкананне праграмы. А "калі ў сябрах згоды няма" — няма і выніку. Пры галасаванні за прыняцце праграмы прыхільнікаў у яе аказалася нямнога. Праект быў адпраўлены на дапрацоўку.

Затым дэпутаты вырашылі вярнуцца да пытанняў аб унясенні дапаўненняў у заканадаўчыя акты па падаткаабкладанню.

Пасля ўдакладнення адпраўленых раней на дапрацоўку артыкулаў, дэпутаты прынялі ў цэлым Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання". Ен уступае ў сілу з 1 студзеня 1994 года.

Што ж з'явілася новага ў нацыянальным заканадаўстве па падаткаабкладанню? На 50 працэнтаў зніжаецца падатак на прыбытак на выручку прадпрыемстваў, атрыманы ад рэалізацыі на Міжбанкаўскай валютнай біржы расійскіх рублёў за пастаўленую на экспарт прадукцыю. Устаноўлена, што недзяржаўныя прадпрыемствы вызваляюцца ад уплаты падатку на прыбытак, атрыманы ў 1994 годзе, калі з дня іх рэгістрацыі прайшло не больш за два гады. На 1994 год захавана спагнанне з калгасаў падаходнага падатку з абкладаемага фонду аплаты працы калгаснікаў. Устаноўлена стаўка падатку ў размеры 8 працэнтаў.

Станіслаў Шушкевіч зачытаў дэпутатам заяву Рамана Унучкі аб вызваленні яго па ўласнаму жаданню ад пасады старшыні планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі ў сувязі з выбраннем яго старшынёй праўлення Інвестыцыйнага банка. Па-рознаму аднесліся члены Вярхоўнага Савета да жадання кіраўніка парламенцкай камісіі пайсці на работу ў камерцыйную структуру. Некаторыя дэпутаты лічаць, што ў цяжкі для рэспублікі час кіраўніку адной з вядучых камісій пакідаць сваю пасаду не трэба. Канчатковае рашэнне пакуль не было прынята.

Мяркуючы па ўсім, наступны тыдзень для членаў Вярхоўнага Савета будзе вельмі няпростым. Акрамя паабяцанага даклада Аляксандра Лукашэнкі, у аўторак прадугледжваецца пачаць абмеркаванне блока эканамічных пытанняў. У іх ліку — прапануемая ўрадам праграма па выхаду з крызісу, фарміраванне бюджэту, павышэнне мінімальнай зарплаты і г.д.

Белінфарм.

## Падзеі. Факты. Каментарыі



Віктар Ігнатавіч Сляднёў — кіраўнік адной з лепшых комплексных брыгад віцебскага будаўніча-мантажнага поезда № 715. За яго плячыма — 39 год работы ў гэтай буйной падраднай арганізацыі. Як прыйшоў сюды пасля заканчэння школы ФЗН, так, за выключэннем тэрміну службы ў арміі, і працуе тут. І выдатна працуе, валодае некалькімі будаўнічымі спецыяльнасцямі. Колькі розных аб'ектаў узведзена за гэты час! У апошнія гады брыгада займаецца ў асноўным будаўніцтвам жылля. Большасць з тых дамоў, якія віцябчане бачаць зараз на вуліцы Лакаматыўнай насупраць Полацкага рынку, выраслі тут дзякуючы стараннем і брыгады Віктара Ігнатавіча.

Фота Г. ЖУКАВА.

### ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

Не падлягаюць рэгістрацыі транспартныя сродкі, набытыя ў гандлюючых арганізацыях, якія прынялі іх для рэалізацыі ад індывідуальных уладальнікаў, па пасведчаннях таможні або даведках-рахунках без папярэдняй рэгістрацыі ў дзяржаўтаінспекцыі.

## ПЕРАДНАВАГОДНІ ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧАМІ

**15 і 16 снежня з 15 да 18 гадзін на прамой сувязі дзяжурныя гарачага тэлефона**

Шаноўныя чытачы! 1993 год адлічвае свае апошнія дні. Што ён вам прынёс, ці апраўдаў вашы спадзяванні і надзеі? З якім настроем сустракаеце Новы год? Мы гатовы выслухаць вас, шаноўныя чытачы. У гэтую сераду і чацвер з 15 да 18 гадзін на прамую сувязь з вамі выйдуць дзяжурныя гарачага тэлефона, з якімі вы вялі размову на працягу года.

Вы можаце выказацца па любым пытанні, звярнуцца да сваіх дэпутатаў і ўлад, прыгадаць вясёлыя і сумныя гісторыі, прачытаць забаўныя радкі, вершы, частушкі... У вас ёсць шанц праз газету павіншаваць з Новым годам самага блізкага чалавека. Ваша віншавальнае слова дойдзе да сына ці ўнука, які служыць у арміі, бо нашу газету выпісваюць і чытаюць у воінскіх часцях, якія размяшчаюцца на тэрыторыі вобласці.

Калектыўная справаздача дзяжурных будзе апублікавана ў навагоднім нумары.

У гэтыя два дні мы будзем з вамі на прамой сувязі. Званіце па тэлефонах: 37-34-40, 37-30-43, 37-31-56, 37-01-45, 37-06-54, 37-31-34, 37-35-44. Нашы чытачы з Оршы, Полацка, Наваполацка, Глыбокага і Шуміліна могуць звяртацца ў карэспандэнцкія пункты газеты. Чакаем вашых званкоў, шаноўныя чытачы!

## Экспрэс — інфармацыя

### Галоўная тэма паведамленняў прэсы — рэферэндум па новай Канстытуцыі і выбары ў Расіі.

*Як сведчаць папярэднія даныя, са 106421 тысячы грамадзян Расіі, якія мелі права прыняць удзел у галасаванні, на выбарчыя ўчасткі ў нядзелю прыйшла большая палавіна выбаршчыкаў (каля 60 працэнтаў). Такім чынам, выбары адбыліся. За новую Канстытуцыю прагаласавала большасць прыняўшых удзел у галасаванні. Што датычыць выбараў ў Дзяржаўную Думу, то сярод аб'яднанняў і партый, якія набралі найбольш галасоў, Ліберальна-дэмакратычная партыя Расіі, блок "Выбар Расіі", Камуністычная партыя Расіі і блок Яўлінскі — Болдыраў — Лукін. Паводле першых паведамленняў электронных сродкаў масавай інфармацыі, у Крамлі не вельмі задаволены выбарамі ў Дзяржаўную Думу. Чакалася, што пераможа з вялікім адрывам ад астатніх "Выбар Расіі".*

У інтэрв'ю на выбарчым участку А.Сабчак заявіў: у Дзяржаўнай Думе большая частка дэпутатаў будзе з ліку людзей з разумнымі поглядамі на жыццё. А што датычыць менавіта Санкт-Пецярбурга, дзе ў аднамандатных акругах прадстаўлена шмат былых дэпутатаў Петрасавета, то гэта, на яго думку, дрэнна, паколькі многія з іх "быццам спецыяльна праніклі ў горад, каб нашкодзіць".

*Адбылося галасаванне і ў следчым ізалятары Міністэрства бяспекі Расіі Лефортава, дзе знаходзяцца былыя віцэ-прэзідэнт Расіі, Старшыня Вярхоўнага Савета і іншыя актыўныя ўдзельнікі кастрычніцкіх падзей у Маскве. А.Руцкой прагаласаў першым. Р.Хасбулатаў не галасаваў.*

**За ходам выбараў у Маскве назіралі больш за тысячу заходніх экспертаў. Паводле папярэдніх звестак, нейкіх значных парушэнняў у ходзе выбараў выяўлена не было. Некаторымі журналістамі зафіксаваны "дробныя" парушэнні з боку, напрыклад, партый Шахрая, Жырыноўскага і некаторых іншых.**

*Па сведчанню некаторых агенцтваў папулісцкая практыка Прэзідэнта Расіі праявілася і напярэдадні толькі што прайшоўшых выбараў. Быццам "незнарок" менавіта перад самым галасаваннем было заяўлена аб павышэнні зарплаты расіянам. І хоць міністр працы Мелікян сцвярджае, што гэта мерапрыемства рыхтавалася даўно, але факт застаецца фактам.*

**"Будучы год — гэта пачатак выхаду з крызісу, самага страшнага крызісу за ўсю гісторыю Расіі. Дай Бог, каб мы перажылі вясну і канец восені (лістапад) наступнага года. Але ў любым выпадку, што б ні здарылася, Бог Расію выратуе і з 1996 года пачнецца яе новая будучыня. Трэба сказаць, кроў у Расіі больш не пральецца, калі, канечне, мы перажывём май наступнага года", — такі прагноз зрабіў П.Глоба ў тэлеперадачы канала "Астанкіна" "Сустрэча новага палітычнага года". Дарэчы, гэта мерапрыемства павінна было скончыцца толькі раніцай 13 снежня, але яно завяршылася ноччу — быццам бы з-за таго, што ў камп'ютэры, якія прымалі інфармацыю аб выніках галасавання, пранік "вірус". На гэтай жа сустрэчы ўзнікла бойка паміж вядомым следчым Гдлянам і лідэрам ЛДПР Жырыноўскім.**

Паводле паведамленняў радыё і тэлебачання.

# Веснік ПРАФСАЮЗАЎ

## НАША ПАЗІЦЫЯ

Тая эканамічная сітуацыя, у якой апынулася рэспубліка, яшчэ раз прымушае крытычна асэнсаваць падзеі. Абстаноўка ў народнай гаспадарцы вобласці вельмі трывожная. Аб'ём прамысловай вытворчасці знізіўся амаль на трэць. Якую ні вазьмі галіну, вынікі не радуюць. Нягледзячы на намаганні працаўнікоў сяла і ндрэнны ўраджай, скарацілася вытворчасць мяса, малака, яек, змяншаецца пагалоўе жывёлы.

Адначасова з аб'ектыўнымі прычынамі (разрыў эканамічных сувязей, дэфіцыт і прагрэсіруючы рост цэн на энергарэсурсы і інш.) хачу адзначыць і тое, што дзяржава не стварыла ўмоў для вытворцы як дзяржаўнага, так і прыватнага сектара.

Сітуацыя ўскладняецца дзеючай падатковай і крэдытнай палітыкай. Падаткі забіраюць значную частку даходаў прадпрыемстваў і насельніцтва. Яны ў нас вышэйшыя, чым у іншых краінах, у тым ліку Расіі, Казахстане... Так, за першае паўгоддзе ўсе выплаты падаткаў па вобласці склалі 104 мільярды рублёў пры грашовых даходах у 112 мільярдаў. У такіх умовах прадпрыемствы, калгасы, саўгасы не могуць абнаўляць асноўныя фонды, укараняць зберагаючыя тэхналогіі — практычна ўсё праядаецца. Здавалася б, пры такой падатковай палітыцы бюджэт дасць магчымасць вырашыць сацыяльныя пытанні. Ды не тут тое было. Да прыкладу, зарплата банкаўскіх работнікаў за верасень склала 115,7 тысячы рублёў, энергетыкаў — 135,6, што па сённяшніх мерках не так і многа. Але ж у прамысловасці — 65,7 тысячы рублёў, у сельскай гаспадарцы — 53, у работнікаў народнай адукацыі — 46, аховы здароўя — 45 тысяч рублёў, культуры — 44, што ў 2 -- 3 разы менш. Многія работнікі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, інтэлігенцыя апынуліся ў жабрацкім становішчы. Тут узнікае пытанне рэгулявання аплаты працы на дзяржаўным узроўні. Суадносіны паміж ростам цэн і даходаў насельніцтва павінны разглядацца не да сярэдніх даходаў, падыход павінен быць дыферэнцыраваным, хоць бы ў разрэзе галін.

Пры многіх кіраўніцкіх структурах і органах улады дзейнічаюць камерцыйныя прадпрыемствы, хоць і наконт гэтага ёсць забаронны закон. Пры гэтым, хоць апараты і вялікія, дастатковага кіраўніцтва галінамі няма. Напрыклад, створан дзяржаўны камітэт па нафтапрадуктах, а палівам і бензінам калгасы, саўгасы, прадпрыемствы не забяспечваюцца. Паралельна дзейнічаюць камерцыйныя структуры, якія прапануюць свае паслугі па шалёных цэнах. Вышэйшыя ж службовыя асобы даюць рэкамендацыі: едзьце, маўляў, куды хочаце, хочаце ў Цюмень, хочаце ў Кувейт, і забяспечвайце сябе нафтапрадуктамі. Ці ж гэта нармальна? Пры такіх адносінах да справы ці трэба ўтрымліваць вялікія кіраўніцкія структуры?

Не лепшыя справы і ў палітыцы крэдытавання. Так, на пачатак лістапада льнозаводы запазычылі калгасам і саўгасам вобласці за здадзеную прадукцыю 8 мільярдаў рублёў. Акрамя таго, мясамалпром і холадакамбінат запазычылі таксама 8 мільярдаў рублёў. І ў той жа час з-за адсутнасці сродкаў калгасы і саўгасы вымушаны браць крэдыт у 30 мільярдаў рублёў пад 170 працэнтаў.

А як жа кантралююць некаторыя выканкомы і банкі мэтавае выкарыстанне крэдытаў? Калі на індывідуальнае і кааператыўнае будаўніцтва жылля льготны крэдыт атрымаць маючым у ім патрэбу найвялікшая праблема, то некаторыя фермеры, атрымаўшы льготны крэдыт, не вырошчваюць і не атрымліваюць сельгаспрадукцыю на выдзеленай зямлі, замест гэтага гандлююць "Снікерсамі" і жавальнай гумкай.

З боку выканкомаў і банкаў няма кантролю за мэтавым выкарыстаннем выдзеленых крэдытаў. Вось адзін з прыкладаў.

У адпаведнасці з дагаворам Аршанскі камбінат будматэрыялаў за пастаўку лесу ажыццявіў папярэднюю аплату ў суме 105 мільёнаў рублёў мінскаму таварыству "Гомес". Тэрмін пастаўкі лесу сцёк у верасні, але драўніна не паступіла і грошы не вернуты.

Наспелі сур'ёзныя змены эканамічнай палітыкі рэспублікі, і ў першую чаргу ва ўтаймаванні інфляцыі і кантролю за цэнамі. Без гэтага не будзе аздараўлення эканомікі, паляпшэння становішча насельніцтва, пакуль пры адсутнасці канкурэнцыі прадпрыемствам-манапалістам прасцей павышаць цэны, а не нарошчваць вытворчасць. Сёння абсалютная большасць тавараў прадаецца па свабодных цэнах, блізкіх да сусветных. Але зарплата ў некалькі разоў ніжэйшая.

За тры кварталы цэны на харчовыя тавары выраслі ў 13,4 раза, мясапрадукты — у 25,4, масла сметанковае — у 17,7, цукар — у 22,5 раза, нехарчовыя тавары — у 13 разоў. Зарплата ж за гэты перыяд па вобласці выросла ў 11,3 раза.

У цэлым за два гады цэны ўзраслі ў 130 разоў, а даходы насельніцтва за гэты час павялічыліся толькі ў 54 разы.

Аб якіх рацыянальных суадносінах паміж ростам цэн і даходаў можна гаварыць? Дзеючая практыка фарміравання цэн і кантроль за імі аказаліся неэфектыўнымі.

У сучаснай сітуацыі дзяржава не мае права адыходзіць ад кантролю за цэнаўтварэннем, у першую чаргу на прадукты харчавання і тавары першай неабходнасці.

Крызіс, што ахапіў практычна ўсе галіны народнагаспадарчага комплексу, усё часцей напамінае аб сабе няпоўным рабочым тыднем, прастоямі цэлых вытворчасцей, скарачэннем кадраў. На 1 кастрычніка ў абласным цэнтры занятасці насельніцтва зарэгістравана 9316 беспрацоўных. Па прагнозах, да канца года лічба можа значна павялічыцца. Да гэтага трэба дадаць скрытае беспрацоўе, якое цяпер ужо ахапіла больш за 35 тысяч чалавек. Пры гэтым усё большая спроба ўрэзаць правы прафсаюзаў, падарваць іх аўтарытэт, прынізіць іх ролю і значэнне. Канкрэтныя крокі, якія прадпрымае Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі па перадачы функцый нагляду за захаваннем заканадаўства аб працы і сацыяльнага страхавання насельніцтва дзяржаўным органам кіравання, карысці не прынясуць. Прадпрымаюцца і іншыя крокі па аслабленню прафсаюзаў.

Што б ні гаварылі сёння аб прафсаюзах, але яны застаюцца той арганізацыяй, якая заклікана аказваць рэальную падтрымку рабочаму чалавеку, абараняць інтарэсы насельніцтва. У такой абстаноўцы як ніколі патрэбна адзінства ў прафсаюзным руху. Наша пазіцыя гранічна ясная, таму становішча няўгодная.

Прафсаюзы выступаюць за хутчэйшае аднаўленне адзінай эканамічнай прасторы ў рамках СНД, вызваленне прамысловасці ад падатковых і мытных пут, стварэнне адзінай крэдытна-фінансавай і грашовай сістэм, умацаванне даверу і дружбы паміж народамі.

Аднак галоўным пытаннем была і застаецца неабходнасць стабілізаваць вытворчасць. У гэтай складанай абстаноўцы неабходны не канфрантацыя з органамі ўлады і кіравання, а канструктыўнае ўзаемадзеянне і раўнапраўнае супрацоўніцтва.

Пастаянныя спробы кіраўніцтва савета Федэрацыі прафсаюзаў весці такім чынам дыялог з Вярхоўным Саветам і ўрадам не заўсёды знаходзяць падтрымку. Улічваючы такую сітуацыю, прэзідыум абласнога аб'яднання і сход прафсаюзнага актыву вобласці аднадушна падтрымалі заяву савета ФПБ аб сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы.

Актыўна падтрымліваем патрабаванне аб правядзенні датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі. Мы павінны ўжо цяпер вызначыць сваіх партнёраў на маючых адбыцца выбарах у вышэйшы орган заканадаўчай улады, знайсці і падтрымаць магчымых кандыдатаў, здольных не на словах, а на справе абараняць правы і інтарэсы працоўных.

**В.МІНІН,**
**выконваючы абавязкі старшыні абласнога аб'яднання прафсаюзаў.**

**ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ**

**Прэзідыум савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў паведамляе, што чарговае пасяджэнне савета адбудзецца 16 снежня 1993 года ў зале вучэбнага цэнтра прафсаюзаў (вул. "Праўды", 8а) у 11 гадзін.**

**На пасяджэнне запрашаюцца члены савета, члены рэвізійнай камісіі абласнога аб'яднання прафсаюзаў, старшыні гарадскіх і раённых саветаў па каардынацыі дзейнасці прафсаюзных арганізацый, кіраўнікі членскіх арганізацый.**

## Гэты нялёгкі час

**Цяжка даводзіцца сёння большасці насельніцтва. І, магчыма, гэтыя цяжкасці былі б яшчэ больш адчувальнымі і безвыходнымі, калі б на варце інтарэсаў працоўных не сталі прафсаюзы.**

**Наш карэспандэнт вядзе размову са старшынёй прафсаюзнага камітэта віцебскай швейнай фабрыкі "Сцяг індустрыялізацыі" Л.А.АКСЮЦІНАЙ.**

**— Ларыса Аляксандраўна, якімі клопатамі жыве ў цяперашні час прафсаюз фабрыкі?**

— Яшчэ ў пачатку года паміж адміністрацыяй прадпрыемства і прафсаюзнай арганізацыяй заключан калектыўны дагавор. Гэты дакумент мае нарматыўна-абавязковую сілу і прызнае прафсаюзны камітэт адзіным паўнамоцным прадстаўніком усіх работнікаў прадпрыемства ў калектыўных перагаворах. Ён ахоплівае ўсе бакі шматгранных адносін адміністрацыі і прафсаюзнай арганізацыі. Я маю на ўвазе вытворча-эканамічную дзейнасць, аплату і нарміраванне працы, рэжым адпачынку і водпускаў, працоўную дысцыпліну, гарантыі занятасці. Усё гэта разам узятае і з'яўляецца сёння самай надзённай асновай дзейнасці прафсаюзнага камітэта фабрыкі.

**— Што канкрэтна можна сказаць аб вытворчай дзейнасці?**

— У калектыўным дагаворы ёсць палажэнне, дзе гаворыцца аб паляпшэнні ўмоў працы. Дык вось у гэтым плане зроблена шмат. Ажыццёўлен цэлы шэраг мерапрыемстваў па тэхнічнаму пераўзбраенню цэхаў, укараненню новай тэхнікі і тэхналогіі, аўтаматызацыі розных працэсаў. Паглядзіце, напрыклад, якая грандыёзная работа праведзена толькі па рэканструкцыі вентыляцыйных сістэм. Сёння ў пераважнай большасці цэхаў стала значна лягчэй працаваць.

Надзённым клопатам прадпрыемства з'яўляецца ў цяперашні момант забяспечанасць сыравінай. З-за штучных мытных бар'ераў прафсаюз быў вымушаны ў пачатку лета даць згоду на работу вытворчых цэхаў па скарочанаму рабочаму тыдню. У цяперашні час, праўда, прадпрыемства перайшло ўжо на стабільны рабочы графік.

Істотным момантам дзейнасці прафсаюзнай арганізацыі з'яўляецца аплата працы. На гэтай глебе нярэдка ўзнікаюць розныя канфліктныя сітуацыі. У нас жа за многія гады склаліся добрыя дзелавыя адносіны з адміністрацыяй. Усе пытанні прымянення форм, сістэм і размераў аплаты працы, матэрыяльнага ўзнагароджання і дапамогі вырашаюцца звычайна толькі па ўзгадненню з прафкомам і цэхавымі камітэтамі.

**— У цэнтры ўвагі прафсаюзаў заўсёды былі пытанні арганізацыі адпачынку людзей.**

— Як ні цяжка, а мы пастаянна вышукваем сродкі для гэтых мэт. У гэтым годзе ў санаторыях і дамах адпачынку правялі свой водпуск больш за 100 чалавек. У што гэта абыходзіцца? Мяркуйце самі. Адна пуцёўка ў санаторый "Лётцы" каштуе зараз 146 тысяч рублёў. Працаўнік жа прадпрыемства аплачвае толькі 5 працэнтаў яе кошту. Калі гаварыць аб геаграфіі адпачынку, то тут можна назваць не толькі беларускія зоны адпачынку, але і Каўказ, Крым, Украіну.

Закончыўся летні аздараўленчы сезон нашых дзяцей. Сёлета паправілі сваё здароўе ў фабрычным аздараўленчым лагеры імя Сільніцкага ў дзве змены 346 дзяцей.

**— Хацелася б закрануць яшчэ адно пытанне — арганізацыю харчавання. На многіх прадпрыемствах рабочыя скардзяцца на высокія цэны ў сталовых.**

— У бліжэйшым будучым мы, напэўна, адмовімся ад паслуг гандлю і пяройдзем на самастойнае абслугоўванне. Гэта пазбавіць нас ад бясконцых гандлёвых нацэнак і, несумненна, дазволіць падзешавіць харчаванне. А то сёння на нашым абсталяванні, вытворчых плошчах гандаль выпрацоўвае прадукцыю і прадае ў 13 кропках, якія не маюць ніякіх адносін да прадпрыемства, Гэта буфеты таксаматорнага парка, гарадскіх школ, фабрыкі мастацкіх вырабаў і г.д.

Адным словам, будзем рабіць усё магчымае для таго, каб дапамагчы нашым працаўнікам выстаяць у гэты нялёгкі час.

*НАШЫ КАНСУЛЬТАЦЫІ*

## Ільготы чарнобыльцам

Права на аздараўленне, першачарговае атрыманне пуцёвак для санаторна-курортнага лячэння ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС", маюць працуючыя грамадзяне, якія пацярпелі ад катастрофы з ліку ліквідатараў, інваліды, у адносінах якіх устаноўлена прычынная сувязь наступіўшай інваліднасці з чарнобыльскай катастрофай; тыя, хто захварэў і перанёс прамянёвую хваробу, эвакуіраваныя і пераселеныя, пры наяўнасці адпаведных дакументаў. Такое ж права маюць дзеці і падлеткі.

Пуцёўкі выдаюцца прафсаюзным камітэтам па месцы асноўнай работы. Для дзяцей — па месцы работы маці, а пры яе адсутнасці — бацькі або асобы, якая іх замяняе.

Выдача пуцёвак праводзіцца на падставе асабістай заявы, акрамя таго, для атрымання пуцёўкі на санаторна-курортнае лячэнне абавязкова наяўнасць медыцынскіх паказанняў.

У выпадку немагчымасці прадастаўлення прафкомамі, органамі сацыяльнага забеспячэння і цэнтрамі занятасці пуцёвак на санаторна-курортнае лячэнне, адпачынак (або па аб'ектыўнай прычыне заявіцель не змог выкарыстаць пуцёўку і прадаставіў у прафком тлумачэнне) дарослае насельніцтва, якое карыстаецца льготамі па арт. 19, 23 закона, а таксама дзеці і падлеткі (арт. $22^1$, 23, 24) маюць права на грашовую кампенсацыю ў размеры сярэдняга кошту пуцёўкі. Для тых, хто карыстаецца льготамі па арт. 18 закона, па іх жаданню прадастаўляецца або пуцёўка, або кампенсацыя.

У 1993 годзе сярэдні кошт пуцёўкі для выплаты кампенсацыі ўстаноўлен Дзяржкамчарнобылем сумесна з саветам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў у наступных размерах: у санаторыі — 75 тысяч рублёў, у дамы адпачынку, пансіянаты, на турбазы — 40 тысяч рублёў, у аздараўленчыя лагеры для дзяцей — 30 тысяч рублёў.

Выплата кампенсацыі працуючым грамадзянам або іх дзецям праводзіцца ў канцы каляндарнага года адміністрацыяй прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, калгасаў, саўгасаў на падставе рашэння прафсаюзнага камітэта з наступнай кампенсацыяй звязаных з гэтым затрат вышэйстаячымі прафсаюзнымі органамі.

За дзіцячыя пуцёўкі выплата кампенсацыі праводзіцца па месцы работы маці, а пры яе адсутнасці — па месцы работы бацькі або асобы, якая яго замяняе.

Непрацуючыя інваліды і пенсіянеры, якія маюць права ў адпаведнасці з артыкуламі 18, 19, 23 указанага закона на штогодняе бясплатнае санаторна-курортнае лячэнне і адпачынак, забяспечваюцца пуцёўкамі органамі сацыяльнага забеспячэння, а часова непрацуючыя грамадзяне — цэнтрамі занятасці па месцы жыхарства.

Дзеці непрацуючых грамадзян, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на ЧАЭС, дзеці-інваліды, у адносінах якіх устаноўлена прычынная сувязь наступіўшай інваліднасці з чарнобыльскай катастрофай (арт. 18 пп. 10, 11), забяспечваюцца без чаргі бясплатнымі пуцёўкамі ў аздараўленчыя лагеры і ўстановы санаторнага тыпу прафсаюзнымі камітэтамі па апошнім месцы работы бацькоў.

У выпадку непрадастаўлення ў адпаведнасці з арт. $22^1$, 23, 24 закона пуцёвак на аздараўленне дзяцей, якія маюць патрэбу ў суправаджэнні, кампенсацыя суправаджальнікам не выплачваецца.

Дзецям і падлеткам, які маюць права ў адпаведнасці з артыкуламі 23, 24 закона на штогодняе бясплатнае забеспячэнне пуцёўкамі на аздараўленне тэрмінам да двух месяцаў, у выпадку немагчымасці іх прадастаўлення, кампенсацыя выплачваецца толькі за пуцёўку на адзін тэрмін.

У адпаведнасці з артыкуламі 18, $22^1$, 23, 24, 25 закона інваліды, а таксама хворыя (дыспансерныя) дзеці з суправаджальнікамі маюць права на бясплатны праезд да месца лячэння (у тым ліку санаторна-курортнага лячэння) і назад. Аплата праезду праводзіцца прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі, калгасамі, саўгасамі, органамі сацыяльнага забеспячэння, цэнтрамі занятасці пасля прадастаўлення праязных білетаў, а таксама дакументаў, што пацвярджаюць знаходжанне на лячэнні (зваротнага талона да пуцёўкі або санаторнай кніжкі).

Набыццё пуцёвак прафсаюзнымі органамі, выплата кампенсацыі ў выпадку непрадастаўлення пуцёвак, затраты на праезд кампенсуюцца абласным аб'яднаннем прафсаюзаў за кошт сродкаў, выдзяляемых Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі з рэспубліканскага бюджэту на ліквідацыю вынікаў катастрофы на ЧАЭС.

Матэрыяльная дапамога на аздараўленне ўдзельнікаў ліквідацыі катастрофы (артыкулы 18, 19, 20) выплачваецца па месцы асноўнай работы.

Непрацуючым пенсіянерам аднаразовая матэрыяльная дапамога на аздараўленне выплачваецца органамі сацыяльнага забеспячэння, а часова непрацуючым грамадзянам — цэнтрамі занятасці.

Расходы па выплаце гэтай матэрыяльнай дапамогі кампенсуюцца мясцовымі фінансавымі органамі за кошт сродкаў, выдзяляемых з рэспубліканскага бюджэту на ліквідацыю вынікаў катастрофы на ЧАЭС.

Тэлефон для даведак 37-33-82.

**З.ДЗЯНІСАВА,**
**галоўны спецыяліст абласнога аддзялення фонду "Здароўе".**

## ПАСЛЯ ПАГРОМУ

Пра пагром у адну з жнівеньскіх начэй у памяшканні рэдакцыі райгазеты "Пастаўскі край" мы паведамлялі раней. Вынікам яго з'явіліся пабітыя вокны, тэлефонны апарат, пішучыя машынкі, пашкоджана мэбля, парваны дзелавыя паперы. Быццам Мамай са сваёй ардой прайшоў...

І вось адбыўся суд. Анатоль Шурпік, 19-гадовы пастаўчанін, псіхічна здаровы, прызнаў віну. Народны суд вызначыў яму меру пакарання ў выглядзе 2 год 6 месяцаў з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 2 гады.

Улічана, што кампенсацыю за нанесены ўрон падсудны ўнёс добраахвотна.

Што падштурхнула Анатоля на злачынства? Быў вельмі п'яны, не памятаў, што рабіў. Суд згадзіўся з гэтым тлумачэннем.

І ўсё ж сумненні ў пастаўчан пасля суда засталіся. Як мог ушчэнт п'яны, аж да страты прытомнасці, учыніць за нейкія паўгадзіны такі знішчальны пагром? Хлопец па фізічных вартасцях ніяк не цягне на міфічнага Геракла. Ці не "памагаў" яму хтосьці чыніць злачынства?

А.ВІХРОЎ.

РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА .





**ОДЕЖДА:**
- пальто
- плащи
- куртки
- костюмы спортивные
- сорочки, блузки и

**ОБУВЬ –**
- мужская
- женская
- детская

в широком ассортименте со складов в Минске

предлагает Минск-техника.

Форма оплаты – любая.

Тел. в Минске (0172) 58-76-90, 58-76-91.



**ФИРМА «ВИТЕБСКОПТТОРГ»**

**реализует со складов г. Витебска:**

трубки латунные диаметром 16x1;
оконный профиль 36x14 мм;
сталь оцинкованную 0,8 мм, 0,55 мм;
трубы водогазопроводные диаметром 32 — 40 мм;
трубы нефтепроводные бесшовные диаметром 219x8 — 10;
трубы тонкостенные электросварные диаметром 127x3,5 мм; 114x3,5 мм;
трубы чугунные водопроводные диаметром 250, 200;
швеллер № 24;
масло ХА-30;
замки врезные;
паронит 3 — 4 мм;
ведра оцинкованные 10 — 12 л;
полотенца махровые;
портьеры тюлевые;
халаты фланелевые и махровые;
пододеяльники;
простыни льняные;
чехлы автомобильные меховые;
бумагу оберточную и писчую;
валики малярные;
стаканы граненые;
ложки и вилки из нержавеющей стали;
лампы ИКЗ-250;
электросчетчики СО4446.
Форма оплаты любая.
Тел. для справок: 1-27-99, 36-98-01, 96-20-29, 33-17-94, 33-38-16.
Факс: 2-86-99.



Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі
Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА



210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 161.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.



Организация

РЕАЛИЗУЕТ НОВЫЕ

* автосамосвалы ГАЗ-САЗ-3507,

* станки для сварки полимерных пленок (изготовление пакетов) М6-АП-7С.

Тел. в Гродно

(8-0152) 44-34-05.



**САМЫ ШЫРОКІ СПЕКТР ЗАПЧАСТАК**
**"ГАЗ", "ЗІЛ", "УАЗ", "МАЗ", "Урал", "Волга", "Масквіч", "ВАЗ"**

карбюратары; размеркавальнікі;
фары; ліхтары;
рэле; спідометры;
прыборы; падшыпнікі;
шклоачышчальнікі; шчоткі;
катушкі запальвання; пераключальнікі;
засцерагальнікі; гнуткія валы спідометраў.




Форма аплаты - безнаяўны разлік.

г. Мінск, вул. Казінца, д. 105, корп. 2, пакой 213, Тэл. (0172) 78-05-52, факс (0172) 78-12-21;
р/р 345345 у КБ "Прафбанк" МФО 153001725. Мы Вас чакаем з 9.00 да 16.30, обед з 13 да 14.



DARS

Простота и скорость




Посредники поощряются.

предлагают «Фиронов и К°».

**Копировальные аппараты Canon NP1550, FC330**

☎ (0172) 63-48-41. Минск, ул. Славинского, 1, кор. 2, комн. 201.



**КООПЕРАТИВНАЯ ФИРМА «АВТОГРАФ»**

закупает

у предприятий неликвиды ПОДШИПНИКОВ.

Информацию направлять по адресу: г.Витебск, Московский пр-т, 1/2.

Факс 37-00-44,

телетайп 157262 Диана.

Тел. 37-00-44, 36-46-43.






РЕАЛИЗУЕМ КАБЕЛЬ АПВГ

3x4 + 1x2,5
3x6 + 1x4
4x2,5
2x2,5

Тел.: 36-95-56, 36-34-53.
Факс 36-20-81.





ATTI SPORT

ПРЕДПРИЯТИЕ ПРОИЗВОДИТ И РЕАЛИЗУЕТ:

РоМарк

Тел. (0172) 333-874, 337-326 факс: (0172) 333-621

ПРИ ПРЕДОПЛАТЕ СКИДКА ДО 10%



Срочно требуется оператор котельной.

Обращаться по адресу: ул. П. Бровки, 20а.

Тел. 96-27-70.








ПОКУПАЮ конденсаторы и пасту с содержанием палладия, серебра, платины.
г. Вильнюс,
тел. (8-0122) 48-37-11.



**Фирма «ВИТОРЖЬЕ» г. Новополоцка приобретет у предприятий и организаций по безналичному расчету:**

— арочный склад холодный 12x24x6
— электростанцию дизельную мощностью 50 — 100 кВт
— трактор Т-25
— плуг и культиватор к трактору Т-40
— котлы отопительные КЧМ-2УЭ "Каунас I" или КЧМ-ЗДГ — 8-9 секций
— автомашину МАЗ или КамАЗ

**Продаем**

рельсы Р-62 новые и прокладку Велотерм или обменяем.
Телефон в г. Новополоцке: (244) 76-763, 79-288.



МЫ ПРИГЛАШАЕМ
КОЛЛЕКТИВЫ ПРЕДПРИЯТИЙ, ОРГАНИЗАЦИЙ, КООПЕРАТИВОВ И ФИРМ, ВСЕХ ДЕЛОВЫХ ЛЮДЕЙ ИСПОЛЬЗОВАТЬ СТРАНИЦЫ ГАЗЕТЫ ДЛЯ РЕКЛАМЫ СВОЕЙ ПРОДУКЦИИ, УСЛУГ, КОММЕРЧЕСКОЙ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ, БАРТЕРА.
НАШ АДРЕС: 210601, ГСП, г. ВИТЕБСК, УЛ. ГОГОЛЯ, 17.
К ВАШИМ УСЛУГАМ «ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ».
ТЕЛ.: 37-45-63, 37-06-89, 37-21-60.



ПОСТОЯННО

НИВЕЛИРЫ
ТЕОДОЛИТЫ
ТАХЕОМЕТРЫ
ДАЛЬНОМЕРЫ

продаём

т. 63-31-84 в Минске



ОРГАНИЗАЦИЯ

реализует:

* соду каустическую твердую, жидкую

* хладон-12,

ТЕЛ. (8-0172) 516-064;

* кальцинированную соду,

ТЕЛ. (8-0172) 26-73-09.


Администрация и коллектив арендного предприятия "ВИЗАС" глубоко скорбят в связи с безвременной смертью начальника 2-го отдела ГОРЕЛОВА Владимира Ивановича и выражают соболезнование семье и близким умершего.

Коллектив управления торговли и общественного питания облисполкома глубоко скорбит в связи со смертью начальника производства базы "Культторг" КРИВИЦКОЙ Валентины Григорьевны и выражает соболезнование родным и близким умершей.